УЛАДЗІСЛАЎ БУБЕН

# Марцін і кацяня



УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б90

Ілюстрацыі *Марылі Крывальцэвіч*

*Для дашкольнага ўзросту*

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Бубен, У. С.**

Б90 Марцін і кацяня : апавяданне : для дашк. узросту / Уладзіслаў Бубен ; іл. Марылі Крывальцэвіч.— Мінск : Маст. літ., 2012.— 16 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1352-5.

Кнігу «Марцін і кацяня» псіхолаг Уладзіслаў Бубен і мастачка Марыля Крывальцэвіч стварали для самых маленькіх.

«Кнігі для дзяцей да трох гадоў павінны ўтрымліваць невялікую колькасць інфармацыі, праз якую дзіця можа засвоіць і ўсвядоміць каштоўнасці грамадства і правілы паводзінаў у соцыуме. Ілюстрацыі павінны быць кантраснымі, яркімі, выявы — зразумелымі дзіцяці»,— падкрэсліваюць аўтары і дораць маленькім чытачам добрую гісторыю пра хлопчыка і кацяня.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-02-1352-5**

УЛАДЗІСЛАЎ БУБЕН

# Марцін і кацяня



Апавяданне

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2012

У суседнім двары жыла кошка Люся.
Яна была спрытнай і прыгожай.



Аднойчы ў яе нарадзілася трое маленькіх кацянят: два беленькія коцікі і адна шэрая кошачка.



Было лета. Кошка Люся любіла грэцца з
кацянятамі на сонцы.



Кацянятам падабалася гуляць
і піць малако.
Люся ўважліва назірала за імі.



Найбольш зухаватай і спрытнай была шэрая кошачка.



Яна лічыла сябе вельмі дарослай, таму часта не слухалася сваю маму.



Аднойчы, калі Люся і кацяняты спалі, маленькая кошачка вырашыла накіравацца ў суседні двор.



Шэрая кошачка была занадта маленькай і
хутка заблукала ў вялікім горадзе.



Надвор'е было добрае. Шэрая кошачка з задавальненнем гуляла і не прадчувала небяспекі.



Мама і Марцін праходзілі паўз кветнік, на якім забаўлялася шэрая кошачка.

— Якое прыгожае кацяня! Давай яго пакормім,— прапанаваў Марцін маме.

— Добра,— згадзілася яна.



Надышоў вечар. Неба зацягнулі хмары, а кошачка ўсё яшчэ гуляла.
Стала цёмна. Грымнуў гром, і пайшоў моцны дождж.



Шэрай кошачцы стала страшна і холадна.
Яна пачала мяўкаць і клікаць маму.
Марцін пачуў, што каля дома жаласліва
мяўкае кацяня.
— Ці можна ўзяць малечу дахаты і
пакарміць? — спытаў Марцін у мамы.—
Кацяня, напэўна, моцна прамокла.



— Вядома, забяры яго,— згадзілася мама.
Марцін забраў шэрую кошачку дахаты і даў ёй малака.



У хуткім часе кошачка сагрэлася
і заснула.
Надышла сонечная цёплая раніца.



Марцін вынес кошачку на вуліцу.
Там яе чакала кошка Люся з кацянятамі.
Яна шукала шэрую кошачку і нарэшце знайшла.
Марцін быў рады, што выратаваў кацяня.



Літаратурна-мастацкае выданне

**БУБЕН Уладзіслаў Стэфанавіч**

МАРЦІН І КАЦЯНЯ

*Апавяданне*

Рэдактар *А. С. Масла*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *Л. І. Астрэйка*
Стылістычны рэдактар *Я. А. Бебель*

Падпісана да друку 05.04.2012. Фармат $84 \times 90^1/_{16}$.
Папера мелаваная. Гарнітура PragmaticaC. Афсетны друк.
Умоўн. друк. арк. 1,4. Улік.-выд. арк. 1,31.
Тыраж 2000 экз. Заказ 2976.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ТАА «Артыя Груп», вул. Кастрычніцкая, 19, 220030, г. Мінск,
www.artia.by.
ЛП № 02330/0150047 ад 05.03.2008.

